ПРАВА ВЕСНІК АБАРОНЧЫ

САКАВІК, 2014

ГОМЕЛЬСКІ ПРАВААБАРОНЧЫ ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

У Рэчыцы спалохаліся выступу па радыё дэмакратычнага кандыдата

СТАР. 3

У большасці райцэнтраў Гомельшчыны выбары пройдуць без выбараў

СТАР. 4

# “Праваабаронцы за свабодныя выбары”:



## Закрытасць працэдураў выклікае недавер да рашэнняў ЦВК на этапе рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты

***Намеснік старшыні Праваабарончага цэнтра “Вясна” Валянцін Стэфановіч адзначыў, што падчас бягучай кампаніі незалежныя назіральнікі не ўбачылі нічога новага.***

“Выбарчы працэс застаецца пад кантролем выканаўчых уладаў і мы бачым селектыўны падыход да прадстаўнікоў апазіцыі як на этапе фармавання выбарчых камісіяў, так і на этапе рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты”.

Кіраўнік Беларускага Хельсінкскага камітэта Алег Гулак тут прыгадаў шматабяцальныя выказванні старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай пра неабходнасць абнаўлення кадраў, замены людзей, якія маюць на сабе адбітак савецкіх выбараў і працуюць яшчэ па старынцы, дыскрэдытуючы такім чынам выбарчую сістэму. “Але наш маніторынг не паказвае, што ёсць нейкія новыя падыходы. Больш за тое, тыя людзі, якіх мы ўвесь час адзначаем як парушальнікаў, стала ўдзельнічаюць у працы выбарчых камісіяў, арганізоўваюць выбарчы працэс і ў гэтым сэнсе нічога не мяняецца”.

Валянцін Стэфановіч паведаміў пра тое, што падчас рэгістрацыі ініцыятыўных групаў грамадзянаў для вылучэння кандыдатаў у дэпутаты шляхам збору подпісаў працэнт адмоваў у рэгістрацыі быў невялікім, але ўсе адмовы выпалі на ініцыятыўныя групы прадстаўнікоў апазіцыйных партыяў альбо альтэрнатыўных кандыдатаў. “Напрыклад, для сябраў АГП, якія збіраліся вылучацца шляхам збору подпісаў, адмовы ў рэгістрацыі ініцыятыўных групаў склалі 22%, для сябраў БНФ – 20%. Але калі мы паглядзім на беспартыйных кандыдатаў, то там гэты паказчык складаў 0,1%”.

Пры гэтым праваабаронца падкрэсліў, што асноўны працэнт адмоваў у рэгістрацыі выкліканы сітуацыяй з вылучэннем кандыдатаў у дэпутаты па некалькіх выбарчых акругах. “Выбарчае заканадаўства ў гэтай частцы было зменена і зараз можна вылучацца толькі ў адной акрузе. Але ўсе мы памятаем, што працэс прыняцця гэтых зменаў быў непублічны, ніякага абмеркавання не вялося, законапраекта на руках ніхто не меў. Цэнтрвыбаркам, на нашу думку, мусіў зрабіць акцэнт менавіта на гэтых зменах. Але калі паглядзець метадычныя рэкамендацыі для акруговых камісіяў, то ніякага тлумачэння у гэтай частцы - пра тое, што вылучэнцам рэгістраваць ініцыятыўную групу можна толькі на адной акрузе – зроблена не было.

З гэтай прычыны ў Мінску не былі зарэгістраваныя ініцыятыўныя групы такіх палітычных дзеячаў, як Аляксей Янукевіч, Анатоль Лябедзька, Алесь Лагвінец. На Гарадзеншчыне цікавая сітуацыя атрымалася з Мікалаем Уласевічам: рашэнне аб рэгістрацыі ініцыятыўных групаў у дзвюх акругах было адмененае Цэнтральнай выбарчай камісіяй, ён абскардзіў гэта ў Вярхоўны суд, але ва ўзбуджэнні справы было адмоўлена ў сувязі з непадведамаснасцю суду”. Тут Стэфановіч нагадаў, што пазіцыя Вярхоўнага суда наконт таго, што пастановы Цэнтрвыбаркама абскарджваць у судовым парадку нельга, пярэчыць Канстытуцыі, якая гарантуе права абскарджваць любыя рашэнні дзяржаўных органаў.

**Працяг на стар. 2**

## "Праваабаронцы за свабодныя выбары: Закрытасць працэдураў выклікае недавер да рашэнняў ЦВК на этапе рэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты

Пачатак на 1 стар.

На этапе збору подпісаў за вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты асноўныя прэтэнзіі праваабаронцаў тычацца назручнасці, нешматлюднасці адведзеных для гэтага месцаў. Таксама назіральнікі адзначалі пэўныя перашкоды. "Зафіксаваны факты, калі людзі ў цывільным здымалі на відэа пікеты па зборы подпісаў. Такім чынам аказваўся пэўны ціск у тым ліку і на выбаршчыкаў, якія, магчыма, у такой сітуацыі баяліся ставіць подпісы за вылучэнне таго ці іншага кандыдата", - сказаў В. Стэфановіч.

Адносна этапу вылучэння кандыдатаў у дэпутаты праваабаронца асобна адзначыў, што, калі разглядаць паводле суб'ектаў, надзеленых правам вылучэння, то гэтая карціна яскрава адлюстроўвае спецыфіку нашай палітычнай сістэмы.

"Палітычныя партыі вылучылі толькі 3,1% ад усіх вылучаных кандыдатаў у дэпутаты. Самы вялікі працэнт у вылучэння ад грамадзянаў шляхам збору подпісаў – 62,4%. І 30% - ад працоўных калектываў. Такі дзіўны суб'ект выбарчага працэсу ў нас існуе як працоўны калектыў, якія замест таго, каб выконваць свае непасрэдныя фунцыі, удзельнічае ў выбарчым працэсе". Удзел палітычных партый у гэтым працэсе застаецца мізэрным – 3,1%. "Ад агульнай колькасці партыйных вылучэнцаў найбольш вылучыла Камуністычная партыя Беларусі – 34%, ад партыі Справядлівы свет 14%, Аб'яднаная грамадзянская партыя – 13, 6%. Агулам колькасць вылучаных кандыдатаў ад партый на 10% меншая, чым была падчас папярэдніх мясцовых выбараў".

Па-ранейшаму жорсткай крытыцы праваабаронцаў падверглася працэдура праверкі подпісаў тэрытарыяльнымі і акруговымі выбаркамамі. "На жаль, сітуацыя не змяняецца: ста працэнтам нашых назіральнікаў было адмоўлена ў прысутнасці непасрэдна падчас праверкі подпісаў, - паведаміў В.Стэфановіч. – То бок ацаніць, наколькі выбарчыя камісіі выконвалі нормы правядзення гэтай працэдуры, якая вельмі дакладна прапісаная ў Выбарчым кодэксе, наколькі аб'ектыўна падыходзілі да праверкі подпісаў, мы не можам".

Па словах праваабаронцы, татальная закрытасць такой важнай працэдуры як праверка подпісаў не дазваляе з даверам ставіцца да рашэнняў ЦВК аб рэгістрацыі ці нерэгістрацыі кандыдатаў у дэпутаты.

**gomelspring.org**

# Валянцін Стэфановіч:
## Кампаніі проста не бачна - яна падобная на віртуальную




**Амаль 90% акругаў у Беларусі падчас мясцовых выбараў застануцца безальтэрнатыўнымі. 10% альтэрнатыўных кандыдатаў не пройдуць у мясцовыя саветы, такі прагноз дае на вынік кампаніі па выбарах дэпутатаў у мясцовыя Саветы Беларусі праваабаронца Валянцін Стэфановіч.**

Акрамя таго, заўважае ён, кампаніі проста не бачна - яна больш падобная на віртуальную:

*- Як звычайны грамадзянін, адзначыў бы характар такой нябачнасці гэтых выбараў. Я не ведаю, калі б я гэтым не займаўся, то я б напэўна не ведаў, што яны ўвогуле ёсць на свеце гэтыя выбары. Адбудуцца выбары ў мясцовыя Саветы, будуць абраныя мясцовыя Саветы, але прадстаўнікоў альтэрнатыўных кандыдатаў там не будзе, мне так падаецца.*

Як падсумоўвае кампанію ініцыятыва "Праваабаронцы за свабодныя выбары", працэс праверкі подпісаў за вылучэнне кандыдатаў быў закрытым. Ёсць вялікія падазрэнні, што вылучэнне і рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты былі кіраваным уладай працэсам.

З поўным аналізам кампаніі можна азнаёміцца на сайце праваабарончага цэнтра "Вясна".

**Рыгор Сапяжынскі, Беларускае Радыё Рацыя**




## Выбаркам: фотаздымак спікера АГП - перадвыбарчая агітацыя

Уладзіміру Няпомняшчых, спікеру АГП па Гомельскай-Навабеліцкай выбарчай акрузе, дзе праводзяцца так званыя давыбары ў Палату прадстаўнікоў, акруговая выбарчая камісія прапанавала памяняць фатаграфію, якая прадстаўлена для агульнага плаката.

У сваім рашэнні камісія указала: "Прызнаць, што фатаграфія кандыдата ў дэпутаты Няпомняшчых У.М. утрымоўвае прыкметы перадвыбарчай агітацыі".

Прычынай такога экстравагантнага рашэння стала тое, што актывіст здаў у камісію фатаграфію, на якой ён зняты ў вопратцы з надпісам "За Беларусь без Лукашэнкі".

Характэрна, што сам надпіс у рашэнні камісіі ніяк не каментуецца і не згадваецца.

**Навіны АГП**

## У Рэчыцы спалохаліся выступу па радыё дэмакратычнага кандыдата

Рэчыцкае раённае радыё “Дняпровец” не пагаджаецца без цэнзуры прапускаць у эфір зварот да выбарцаў кандыдата ў дэпутаты райсавета, прадпрымальніка, рэгіянальнага каардынатара кампаніі “Гавары праўду” Алега Шабетніка.

“Запісаць на радыё мяне запісалі, але папярэдзілі, што аддадуць у раённую выбарчую камісію, а тая – у Цэнтрвыбаркам. Будуць шукаць нейкія парушэнні.

У сваім выступе я распавёў пра “Народны рэферэндум”, ініцыяваны кампаніяй “Гавары праўду”, БНФ і рухам “За свабоду”, пра выбарнасць старшыняў выканкамаў, а таксама прэзідэнта – не больш як два тэрміны. Распавядаў і пра вяртанне да бясплатнай адукацыі. Відаць, гэта ўсё і палохае і радыё, і выбарчыя камісіі”, – сказаў службе маніторынга ГА “БАЖ” кандыдат у дэпутаты Рэчыцкага райсавета Алег Шабетнік.

Дарэчы, апрача райсавета, Шабетнік вылучаўся і кандыдатам у дэпутаты Гомельскага аблсавета па Холмецкай выбарчай акрузе №52. Аднак камісія не зарэгістравала яго, і цяпер у згаданай акрузе, дзе адзіным кандыдатам засталася начальніца абласной падатковай інспекцыі, выбары будуць праходзіць на безальтэрнатыўнай аснове.

**Служба маніторынгу ГА "БАЖ"**

*У Навабеліцкім раёне Гомеля разам з выбарамі ў мясцовыя саветы сёлета праводзяцца й паўторныя выбары дэпутата Палаты прадстаўнікоў. Справа ў тым, што ў 2012 годзе жыхары Навабеліцы тут ня здолелі — дакладней не схацелі — абраць свайго дэпутата ў вышэйшы заканадаўчы орган. Праўладны кандыдат сышоў з дыстанцыі, бо быў замешаны ў карупцыйным скандале.*



# Гомель: На адзін мандат у Палату — пяць прэтэндэнтаў

Дэмакратычны прадстаўнік зьняўся з парляменцкіх выбараў з прычыны адмовы партыі ўдзельнічаць у іх, паколькі ў выбарчых камісіях па сутнасьці не было яе вылучэнцаў, а ў турмах сядзелі палітвязьні. За прадстаўніка Лібэральна-дэмакратычнай партыі людзі проста не прагаласавалі — супраць выказаліся каля 70 адсоткаў жыхароў Навабеліцы, што прыйшлі на выбарчыя ўчасткі.

Гэтым разам у барацьбу за дэпутацкі мандат уступілі ў Навабеліцкай акрузе № 36 пяцёра прэтэндэнтаў: сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі, пэнсіянэр МУС Уладзімер Няпомняшчых, дацэнт Міжнароднага ўнівэрсытэту МІПСА, сябра партыі левых «Справядлівы сьвет» Віктар Хоміч і трое беспартыйных — урач-тэрапэўт Алена Астапюк, школьная выкладчыца ангельскай мовы Вольга Судакова і намесьнік дырэктара па гаспадарчай дзейнасьці дзіцяча-юнацкай спартовай школы алімпійскага рэзэрву Мікалай Шкірэеў.

Зьбіралі подпісы дзеля вылучэньня кандыдатамі й групы сябра руху «За свабоду» Галіны Краўчанкі і сустаршыні «Маладога фронту» Андруся Цянюты. Аднак акруговая камісія не зарэгістравала іх, выявіўшы ў падпісных лістах багата хібаў. Кіраўнік адной з ініцыятыўных групаў, падпісваючыся за свайго вылучэнца, няправільна ўказаў нумар свайго пашпарта.

У сваю чаргу дзейныя кандыдаты ня могуць распачаць паўнавартасную агітацыйную кампанію. Па словах Уладзімера Няпомняшчых, не надрукаваны пакуль агітацыйныя ўлёткі.

**Радыё Свабода**

# У пераважнай большасці райцэнтраў Гомельскай вобласці выбары пройдуць без выбару

У Лоеўскім, Кармянскім, Ельскім, Буда-Кашалёўскім, Жыткавіцкім, Хойніцкім, Чачэрскім, Лельчыцкім, Нараўлянскім раёнах Гомельскай вобласці выбары ў раённыя Саветы дэпутатаў пройдуць на безальтэрнатыўнай аснове. Выбаршчыкам прапануецца «выбіраць» дэпутата з таго, што ёсць у наяўнасці: на адну акругу – адзін кандыдат.

У астатніх райцэнтрах сітуацыя падобная. Напрыклад, у Мазыры на 40 дэпутацкіх месцаў – 41 кандыдат. У Брагіне – 34 кандыдаты на 33 мандаты. У Рагачове на 40 месцаў у райсавеце прэтэндуюць 43 чалавекі. Дэпутатамі Лоеўскага райсавету плануюць стаць (са 100% гарантыяй, без наяўнасці канкурэнтаў) начальнік мясцовага РАУС, начальнік аддзела адукацыі, спорту і турызму, начальнік РАНС (раённага аддзелу па надзвычайных сітуацыях), дырэктар педагагічнага каледжу, старшыня раённага спажывецкага таварыства, дырэктар камунальнай гаспадаркі, ваенны камісар райваенкамату і іншыя мясцовыя начальнікі. Праўда, ад вясковых акругаў дэпутатамі могуць стаць два трактарысты, фельчар, настаўнік, лясьнік, астатнія ж – старшыні сельскіх саветаў і дырэктары сельскагаспадарчых прадпрыемстваў.

Аналагічна ў Веткаўскі Савет дэпутатаў ідуць старшыні сельсаветаў, дырэктары сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, начальнікі аддзелаў райвыканкаму.

**“Праваабаронцы за свабодныя выбары”**

Праваабарончы весьнік. Гомельскі праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь.
Распаўсюджваецца бясплатна. Наклад: 299 асобнікаў.